# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

ZASŁUŻONY BIAŁOSTOCCZYŹNIE

№ 15 (1154) ГОД XXIII БЕЛАСТОК 9 КРАСАВІКА 1978 г. ЦАНА 60 гр.


ПОШУКІ І ЗДЗЯЙСНЕННІ

# СУТНАСЦЬ ВУЧОНАГА

— Аднойчы ў размове са мной адзін журналіст заўважыў: „Пане рэктар, вы валодаеце нейкай незвычайнай таямніцай, каб хутка і надзейна авансаваць. Вы ж зрабілі маланкавую кар'еру!“ І ў гэтым мяне страшэнна ўразіла тое, што некаторыя людзі могуць такім чынам разумець і ўспрымаць маё жыццё. А я ж, па шчырасці кажучы, ніколі не задумваўся над сваёй кар'ерай. Я толькі стараўся салідна працаваць, працаваць, так сказаць, да сёмага поту. І нічога не бачыў вакол сябе апрача працы. Калі ж і задумваўся, то адно над тым, як лепш выканаць паўстаўшае перада мной заданне. І ці можа быць інакш? Я — прадукт сваёй эпохі. Усё маё пакаленне былых зэтэмпоўцаў такое, пакаленне работнікаў-працусяў...

І на самай справе. Юнацтва рэктара Беластоцкай медыцынскай акадэміі праф. др габ. Канстанціна Віснеўскага выпала на той бурлівы час у гісторыі нашай краіны, калі сацыяльныя пераўтварэнні ўскалыхнулі ўсё грамадства і далі магчымасць кожнаму развіваць свае здольнасці ў працы для дабра грамадства. Паходзіць ён з сялянскай сям'і з вёскі Асноўка, што прытулілася да берага ракі Буга недзе ў палавіне дарогі паміж Драгічынам і Цеханоўцам. Значыць, з таго асяроддзя, дзе найвышэйшай вартасцю лічыцца саліднасць і працавітасць. І яму таксама былі чужыя лёгкія дарогі ў жыцці. Яго поўнасцю захапілі ідэалы эпохі першага дзесяцігоддзя народнай улады, эпохі рамантычных юнацкіх узлётаў і бязмежнай адданасці працы для грамадства і над сабой.

— Іменна ў той час і сфармаваўся мой жыццёвы ідэал, — заўважае рэктар. — Тады я прыйшоў да вываду, што найкаштоўнейшы скарб — гэта жыццё і здароўе чалавека. І яму вырашыў я служыць па меры маіх сіл.

(Працяг на стар. 4)



БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ-78



*Дуэт Тамара Ільяшук і Людміла Грайко з бельскага белліцэя — І месца ў катэгорыі сучаснай песні.*
*Фота М. Шаховіча.*

# НА ГРАНІЦЫ

Скончылася вясковая вуліца, і дарога раптоўна абарвалася. Далей — нельга. Дзяржаўная граніца. Прыйшлося вяртацца назад у Вычулкі, на якіх у гэтым раёне канчаецца наша краіна. Граніца тут праходзіць даслоўна па загуменнях. Гавораць, што адразу пасля вайны адзін з жыхароў Вычулак хату меў у Польшчы, а клуня знаходзілася ўжо на савецкім баку.

Ведаю гэтую вёску здаўна. Па-суседску, у Клюковічах, знаходзіцца школа, у якой пачынаў я сваю адукацыю. З тым большай цікаўнасцю стараўся цяпер улавіць хаця б знешнія прыкметы перамен, якія здзейсніліся тут на працягу апошняга 25-годдзя. Вёска здалася мне нейкая сонная, ціхая, па-даўнейшаму забудаваная драўлянымі дамамі.

Солтыс Аляксандр Нікіфарук кажа, што людзі ў Вычулках жывуць... беднавата.

— На чым жа нам тут разбагацець? Гэта ж канец краіны, глухі куток.

Сапраўды? Не хацелася мне верыць. Дык іду далей. І раптам — як на малюнку: **вялікі мураваны дом, а за ім — прасторны панадворак і вянок салідных, па-сучаснаму распланаваных гаспадарчых будынкаў.**

Значыць, подых прагрэсу ўсё ж не абмінуў гэтага глухога кутка нашай краіны. Тут таксама знайшліся людзі, якія даюць прыклад іншым, якія даказваюць на практыцы, што можна і трэба жыць шчасліва.

— Вы да мяне? — пачуў я голас селяніна.

— Калі дазволіце...

І завязалася між намі, як звычайна ў такіх выпадках бывае, агульная гутарка аб жыцці-быцці. Найперш я даведаўся, што **Анатоль Міткевіч** мае сямігектаровую гаспадарку, якая з'яўляецца адзінай крыніцай яго грашовых даходаў, што яго дачка закончыла нядаўна тэхнікум і абсталявалася на працу ў Тыневічах, у тамашняй спулдзельні прадукцыйнай, а сын Мікалай жыве разам з бацькам і завочна папаўняе свае веды ў сельскагаспадарчым тэхнікуме.

— Дык што: пасля тэхнікума збіраецеся пакінуць вёску, ці астаецеся на бацькоўскай гаспадарцы? — пытаю яго.

— Яшчэ не вырашыў. Аднак застануся, бадай, дома, бо цяпер на гаспадарцы можна добра жыць. Трэба толькі выбраць для сябе адну спецыялізацыю.

— Напрыклад, якую?

— Я буду гадаваць букатаў, значыць, маладых бычкоў, асабліва „шаралезаў“, бо гэтая французская парода дае вялікі прырост жывой вагі, а калі высокая вага, дык вядома, і цана...

— А што вы аб гэтым мяркуеце? — звяртаюся да старэйшага гаспадара.

— Гэта ўжо яго справа, — кажа ён. — Я ў школах не вучыўся, бо не меў такіх умоў, як ён. Пастараўся, аднак, падрыхтаваць для яго прадукцыйную базу: пабудаваў абору, 20 х 7 м і клуню 16 х 8 м, а таксама прасторны свіран для збожжа. Купіў малатарню з рухавіком, гадую двое коней, стараюся цяпер набыць трактар, хачу таксама павялічыць сваю

(Працяг на стар. 4)

КРАЯЗНАЎЧЫ СЛОЎНІК

# БРАНСК

Дакладна апісваць дарогу ў **Бранск** няма патрэбы: ён знаходзіцца на рухлівым шляху з Варшавы ў Белавежу, у палавіне адлегласці паміж Шапятовам і Бельскам. Зрэшты, яго няцяжка знайсці на кожнай карце Беласточчыны.

Нават калі б існавалі і захаваліся да нашага часу карты, скажам, тысячагадовай даўнасці, то і на іх Бранск быў бы адзначаны спецыяльнай паметай: „надта старажытны“. І гэта не выпадкова, бо іменна ў Бранску ў 1972 годзе ў часе земляных работ быў знойдзены багаты скарб з 21 прадметам з бронзы, сярод іх „12 нагаленнікаў, 2 бранзалеты, 6 ашыйнікаў і прадмет з чатырох скруткаў, — пісала ў часопісе „З отхлані векув“ Нр. 4/73 беластоцкі археолаг Д. Ясканіс. — Агульная іх вага складае 4,8 кг. Усе прадметы зроблены на высокім тэхнічным узроўні. Ім уласцівы дасканалыя прапорцыі, сіметрыя і ўмелае спалучэнне арнаменту з формай прадмета. Іх форма і спосаб упрыгожання дазваляюць усю знаходку залічыць да часоў гальштацкай культуры“. А гальштацкая культура — гэта VIII-V стагоддзі да нашай эры. Вывад просты: на месцы, дзе цяпер знаходзіцца Бранск, людское паселішча было сама меней 2500 год таму назад! Цяжка паверыць, што цяперашні ціхенькі і крыху нават заспаны Бранск, загублены сярод зараснікоў альшыны і таполі, з'яўляецца равеснікам „вечнага горада“ — старажытнага Рыма. Але так ужо было: калі легендарныя Ромул і Рэм ссалі ў трысціне на беразе Тыбра казачную ваўчыцу, тут, пад сценамі цвердзі, што ўзвышалася пры ўпадзенні рачулкі Бронкі ў рэчку Нурэц, разыгралася трагедыя, у выніку якой астаўся ляжаць у зямлі аграмаднай каштоўнасці, як на тыя часы, бронзавы скарб. Хто ведае, можа гэтая цвердзь належала легендарнаму племені неўраў, пра якіх расказвае грэчаскі гісторык Герадот, што жыў у гадах 485-425 да нашай эры? Пра многае тут можна толькі здагадвацца, пакуль геолагі не раскапаюць курганы Замчышча і Горка.

Але няма сумнення ў тым, што недзе ў X-XI стагоддзях крэпасць Бранск належала да рускіх князёў, і разам з Суражам, Бельскам, Нарвай і многімі іншымі, назвы якіх не захаваліся, а толькі сярод палёў сёння віднеюць пасля іх гарадзішчы, складалі абаронную лінію Кіеўскай Русі ад нападаў ваяўнічых яцвягаў, злінцаў, бортаў, літоўцаў і іншых балтыйскіх плямёнаў. Бадай з таго ж часу паходзіць і цяперашняя назва Бранск. Яна хоць і выводзіцца ад назвы рэчкі Бронка, але абедзве гэтыя назвы маюць непасрэдную сувязь са старажытнарускімі словамі: „броня“ — панцыр, узбраенне, ахова; і „брань“ — бітва, вайна. Гэтыя назвы ды яшчэ ўрочышчаў Замчышча і Кумат запладнілі фантазію бранчан яскравымі вобразамі выдуманых бітваў, якія быццам бы разыграліся тут, пад сценамі іх горада. Яны таксама выкарыстаны беластоцкім журналістам і пісьменнікам Р. Красько пры пісанні гістарычных аповесцяў „Кумат“ і „Скірмут, сын Кумата“. Але гэта толькі займальная здагадка мастака-літаратара.

Напэўна вядома тое, што ў XIV стагоддзі Бранск разам з усім Падляссем трапіў ва ўладанне Вялікага княства Літоўскага, і яго некалькі разоў разбуралі крыжакі. Ён — адзін з першых гарадоў на Падляссі, які атрымаў правы на самакіраванне. Ужо ў 1493 годзе кароль польскі і вялікі князь літоўскі Аляксандр Ягелончык прызнае Бранску магдэбургскае права, на цэлыя два гады раней, чым Бельску, сталіцы Бельскай зямлі, на якой знаходзіўся Бранск.

Значны след сваёй дзейнасці пакінула тут каралева Бона, якая ахвяравала немалыя сродкі на пабудову ў Бранску бальніцы-прытулка, царквы, касцёла і садзейнічала ажыўленню гаспадарчага жыцця ў мястэчку. Відаць, тады то пайшоў сплаў дрэва па рацэ Нурэц і з таго часу частка мястэчка і па сённяшні дзень завецца Біндзюгай, г. зн. месцам на рацэ, дзе спускалі на ваду дрэва і вязалі яго ў плыты. З „Люстрацыі ваяводства Падляшскага“ з 1576 г. даведваемся, што ва ўрочышчы Тураўшчына (праўдападобна, яно знаходзілася там, дзе цяперашняе ўрочышча

(Працяг на стар. 4)

## ШТО НОВАГА

### ЛЕГЕНДА ПРА ЧОРНУЮ ЗОЛУШКУ

На якія толькі выдумкі не здатны прадпрыймальнікі бізнесу, імкнучыся павялічыць свой капітал! Прадстаўнікі адной амерыканскай кампаніі не пагрэбавалі патурбавацца нават аб тым, каб упрыгожыць жанчын чарнаскурага паходжання, хаця ўсім вядома, што яны паталагічна не ўспрымаюць каляровых людзей і з'яўляюцца злоснымі прыхільнікамі расавай дыскрымінацыі.

Каб крануць сэрцы негрыцянак, яны пачалі каля двух год назад спецыяльна для іх выпускаць касметычныя вырабы. На каробцы з касметычнымі мазямі, лакамі, пamадамі змясцілі партрэт каляровай прыгожай жанчыны з дзесяткам кос і размаляванай так, як можна толькі размаляваць чалавечы твар з дапамогай адпаведных сродкаў сучаснай хіміі. Адначасова на старонках газет, часопісаў і ў спецыяльных плакатах была надрукавана легенда пра бедную негрыцянку, якую выпадкова адшукалі амерыканскія вандроўнікі ў шалашы з пальмавага лісця ў адным з далёкіх экзатычных краёў і прывезлі з сабою ў Нью-Йорк. Сэнс рэкламы такі: паглядзіце на гэтую каляровую, але прыгожую жанчыну, паспагадайце яе беднаму паходжанню і, калі хочаце стаць такой жа прыгожай, карыстайцеся нашымі касметычнымі таварамі.

А на справе гэта гісторыя з'яўляецца звычайнай хлуснёй, як і большасць рэкламных выдумак. Дзяўчына, партрэт якой упрыгожвае каробкі касметычных вырабаў, зусім не беднага паходжання. Бацька яе — багаты чалавек, займае відны пост дыпламата Кеніі. І ён таксама, відаць, не супроць, каб яго дачка зрабіла свой бізнес на добрых пачуццях каляровых жанчын.

### АРЫГІНАЛЬНЫ СЮРПРЫЗ

Бадай, цяжка прыдумаць сюрпрыз больш арыгінальны за той, што паднеслі да дня „незалежнасці" жыхарам бантустана Бапутатсвана кіраўнікі Паўднёва-Афрыканскай Рэспублікі. Яны пабудавалі да гэтай „знамянальнай, святочнай" даты... новую турму, у якой падрыхтавана аж тысяча месцаў для зняволеных суайчыннікаў. Галоўны міністр Мангопе, прымаючы ключ ад гэтага новага цуда архітэктуры, без усялякай сарамлівасці, з цынізмам, на які здольны дзеячы паўднёваафрыканскіх улад, урачыста сказаў, што лічыць турму „вельмі памятным дарам". Сапраўды, тут сапраўдныя „клопаты" аб дабрабыце людзей: тысяча з іх атрымае на нейкі час дах над галавой.

### У ГЭТЫМ ТЫДНІ

**425 гадоў назад**

У красавіку 1553 пам. Франсуа Рабле, французскі пісьменнік эпохі Адраджэння. Сусветную славу здабыў фантастычным раманам-эпапеяй „Гарганцюа і Пантагруэль".

**235 гадоў назад**

13 IV 1743 нар. Томас Джэферсан, амерыканскі дзяржаўны і грамадскі дзеяч, асветнік, філосаф. Будучыню Амерыкі бачыў у развіцці земляробства.

**165 гадоў назад**

10 IV 1813 пам. Жазеф Луі Лагранж, французскі матэматык і механік („Лагранжа формула", адна з асноўных формул дыферэнцыяльнага вылічэння).

**155 гадоў назад**

12 IV 1823 нар. Аляксандр Астроўскі, рускі драматург. Аўтар п'ес: „Свае людзі — паладзім", „Вір", „Лес", „Ваўкі і авечкі", „Таленты і паклоннікі", „Даходнае месца", „На ўсякага мудраца хапае прастаты" і інш.

**95 гадоў назад**

13 IV 1883 нар. Дзям'ян Бедны (сапр. Яфім Прыдвораў), рускі савецкі паэт. Развіваў жанры байкі, вершаванага фельетона, эпіграмы. Многія радкі яго вершаў сталі прыказкамі.

13 IV 1883 нар. Аляксандр Аляксандраў, савецкі кампазітар і дырыжор. Арганізаваў і да канца жыцця ўзначальваў Ансамбль песні і танца Савецкай Арміі (цяпер носіць яго імя).

**80 гадоў назад**

9 IV 1898 нар. Поль Робсан, амерыканскі спявак, драматычны акцёр, негрыцянскі грамадскі дзеяч.



*Агульны выгляд Палаца культуры ў калгасе „Рассвет".*

*Фота Э. Трыгубовіча.*

**КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З БЕЛАРУСІ**

# Цэнтр культуры калгаса

Шырокая стужка шашы вядзе нас з раённага цэнтра ў сяло Мышкавічы, у ордэна Леніна калектыўную гаспадарку „Рассвет" імя К. П. Арлоўскага.

Некалькі мінут язды — і за паваротам паказваецца вялікі трохпаверхавы будынак Палаца культуры, са шкла і бетону.

Перад фасадам будынка, крыху справа, узвышаецца бронзавы бюст Героя Савецкага Саюза, Героя Сацыялістычнай Працы Кірылы Арлоўскага, нацыянальнага героя Беларусі. Бюст — гэта выраз ушанавання легендарнага чалавека за яго баявыя і працоўныя заслугі.

Баявыя — за ўдзел у грамадзянскай і Айчыннай войнах. Працоўныя — у 1944 г. інвалід вайны, абяспечаны ўсім неабходным для спакойнага жыцця, К. П. Арлоўскі пакінуў сваю кватэру ў Маскве. Прыехаў у родную вёску Мышкавічы, узначаліў калгас, які назвалі „Рассвет".

П. Арлоўскі вывеў калгас у лік передавых у краіне.

Успамінаюцца словы К. П. Арлоўскага пра тое, што яго жыццё складалася з мешаніны паху пораху і хлеба. Недарма перад бюстам устаноўлены вылітыя з металу плуг і вінтоўка.

На жаль, Арлоўскі не дажыў да таго дня, калі тут, на беразе штучнага возера, будаўнікі ўзвялі вельмі прыгожы будынак — Палац культуры за кошт звыш двух з паловай мільёнаў рублёў.

Палац пабудаваны па праекту лаўрэата Дзяржаўнай прэміі СССР архітэктара Георгія Заборскага. У ім звыш ста розных памяшканняў.

Мяккае святло, выгодныя крэслы, аздобы заахвочваюць нас зайсці ў глядзельную залу з амфітэатрам на 800 месц. Тут адбываюцца калгасныя ўрачыстасці, пастаноўкі п'ес і канцэрты, Рухомая сцэна дазваляе выступаць вялікім прафесіянальным калектывам. Частымі гасцямі ў „Рассвеце" бываюць артысты Мінска, Магілёва і іншых гарадоў краіны. Сюды прыязджаў нават Вялікі тэатр оперы і балету СССР з Масквы.

З няменшым зацікаўленнем глядзяць і слухаюць калгаснікі сваіх самадзейных артыстаў. Далёка за межы рэспублікі разышлася слава пра хор „Рассвета". Ён — лаўрэат І Усесаюзнага фестывалю самадзейных калектываў. У 1976 годзе хору прысвоена ганаровае званне народнага.

Апрача хору, у Палацы адбываюцца заняткі ў танцавальным, вакальным гуртках, інструментальнага калектыву, духавога аркестра.

Тут таксама памяшчаецца дзіцячая музыкальная школа. Больш 80 дзяцей калгаснікаў займаецца ў класе гармоніка, акардэона, народных інструментаў. Вучаць дзяцей майстэрству 13 настаўнікаў. Школу ўтрымоўвае калгас сваім коштам. Дарэчы, тутэйшы дзіцячы хор належыць да найлепшых у рэспубліцы.

У Палацы створаны прыгожы зімовы сад, які ўдала ўзбагачаюць фантаны. Плошча саду — звыш 600 квадратных метраў. Над двума басейнамі звісаюць галінкі раслін — белай магноліі, банана, лімоннага дрэва, фінікавай пальмы... Цікава, што большую частку раслін, многія з якіх цяпер маюць больш двух метраў вышыні, прынеслі сюды калгаснікі.

Вельмі цікавы музей працоўнай славы калгаса. У ім сабраны багаты фактычны матэрыял. Шматлікія экспанаты расказваюць пра слаўную гісторыю „Рассвета", пра вялікі жыццёвы шлях К. П. Арлоўскага, пра передавых людзей калгаса. Заўважым, што больш 200 працаўнікоў „Рассвета" ўзнагароджаны ордэнамі і медалямі СССР. Лепшым з іх — Галіне Елісеенка, Феадосіі Кісялёвай, Хрысціне Міхневай — прысвоена званне Героя Сацыялістычнай Працы. Восем калгаснікаў удастоены ордэна Леніна, пятнаццаць — ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга.

У Палацы кожны можа знайсці сабе прыемны занятак. Адкрыты — вялікая бібліятэка, танцавальная пляцоўка, спартыўная зала, пакой для настольных гульняў.

На новы год тут прыбіраюць вялікую ёлку, і сюды збіраюцца па сутнасці ўсе члены калгаса. Пасля карагодаў людзі выходзяць з Палаца і быццам апынаюцца ў казцы. Зусім на марозе пякуцца блінчыкі, пыхкае самавар. А дзед Мароз і Снягурачка запрашаюць прысутных праехацца на выстраеных рускіх тройках.

Палац узведзены згодна з генеральным планам забудовы цэнтра калгаса. Пры гэтым архітэктары прадбачылі і тое, што будзе каля яго. Палац адкрылі два гады таму назад. Але ўжо цяпер побач з ім пабудаваны новы рэстаран, будуецца гасцініца, стадыён, гандлёвы цэнтр. Паблізу Палаца — новая вуліца двухпавярховых вілаў. У кожнай з іх па 5 пакояў, склеп, гараж, водаправод, іншыя выгоды.

Паўстаючы каля Палаца новы цэнтр калгаса хутка будзе называцца вельмі вымоўна — пасёлак „Рассвет".

**Н. Сакалоўскі**

**ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"**

**У белыя рамонкі ці ў блакітныя васілёчкі? ● Авечым следам ● З беларускага друку ● Колеры белавежскай зімовай палітры ● Алімпійцы белліцэя ● Пра жанчын з Рафалоўкі ● Крынкаўскія пекары ● Весткі з Ляўкова, Гайнаўкі, Супраслі, Кашалёў, Чаромхі, Дубін, Вітава, Тапаркоў, Нарвы ● Кастусю пашанцавала ● З „Весніка Задрыпанкі" ● Дзівак (!) ● Песня „Tobie Karolino".**

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Sobota 8 IV** — 6.00 TTR. Uprawa roślin. 6.30 Hod. zwierz. 11.00 Odpowiedź — radz. dramat obycz. 12.45 TTR. Hod. zwierz. 13.25 Mech. rol. 14.05 Red. szk. zap. 14.15 Pr. dnia. 14.20 Dziennik. 14.30 Obiektyw. 14.50 Radzimy rolnikom. 15.00 Kino Tel. Najmłodszych. 15.30 Wojsk. Film Dok. 16.00 Studio 2.

**Niedziela 9 IV** — 7.00 TTR. Hod. zwierz. 7.30 Mech. rol. 8.00 Nasze spotkania. 8.20 Now. w domu i zagr. 8.45 Sport. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Teleranek. 10.20 Antena. 10.45 U zarania dziejów — odc. II hiszp. ser. 11.45 Dziennik. 12.00 Rolnicze rozmowy. 12.30 Sport. 12.45 Rzecz muzyczna: Bielsko-Biała. 13.35 Klub Sześciu Kont. W krainie Yeti. 14.25 Wielka gra. 15.10 Los. Dużego Lot. 15.25 Skarb Tarzana — ameryk. film przyg. 16.50 Muzyczny kinematograf — teletur. 17.30 Tele-Echo. 18.30 Sport. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.30 Bajka dla dor. 20.35 Noce i dnie — odc. VII ser. 21.35 Muzyka i ekran. 22.35 Sport. 23.05 Melodie przed północą.

**Poniedziałek 10 IV** — 12.45 RTSS. Fiz. IV sem. 13.25 TTR. Mech. rol. 14.55 Pr. dnia. 15.00 Melodie. 15.30 NURT — filozof. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Zwierzyniec. 17.40 Dom i my. 17.55 Ruiny strzelają — odc. II ser. ZSRR. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Teatr TV. E. O'Neill „Zmierzch długiego dnia". 23.10 Dziennik.

**Wtorek 11 IV** — 6.00 RTSS. Fiz. sem. IV. 6.30 TTR. Mech. rol. 10.00 Dla kl. VI. J. pol. 11.00 Noce i dnie — ser. 12.00 Dla kl. VIII Hist. 12.45 RTSS. Chem. 13.25 Biol. 14.55 Pr. dnia. 15.00 Melodie. 15.30 Złoty liść — pr. dla seniorów. 16.00 Dziennik. 16.30 Studio Mł. 17.00 Ludzie uparci — pr. publ. 17.00 Interstudio. 18.20 Człowiek i przyroda — film dok. hiszp. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Saga rodu Palliserów — odc. XIII ser. 21.30 Świadkowie. 21.50 Teatr Małych Form. W. Trevor: Małżeństwa. 22.30 Legenda Generała — film dok. 22.50 Dziennik.

**Środa 12 IV** — 6.00 RTSS. Chem. 6.30 Biol. 9.00 Dla kl. VII Chem. 11.05 Hist. 12.00 Wych. muz. 12.45 RTSS. J. pol. 13.25 Mat. Sem. IV. 14.25 W drodze do nowego. 14.55 Pr. dnia. 15.00 Melodie. 15.30 NURT — naucz. pocz. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Pr. dla dzieci. 17.00 P. nożna. Kadra PZPN—Irlandia. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Piekło na Pacyfiku — fab. film ameryk.-jap. 22.15 Dziennik. 22.30 Godzina plastyczna.

**Czwartek 13 IV** — 6.00 RTSS. J. pol. Sem. V. 6.30 Mat. Sem. IV. 9.00 Dla kl. VIII i I lic. Przysp. obr. 10.00 Dla kl. II lic. J. pol. 11.05 Dla kla. VII—VIII. J. pol. 12.55 Dla kl. III—IV lic. J. pol. 13.30 RTSS. J. pol. Sem. II. 14.00 Mat. Sem. II. 14.55 Pr. dnia. 15.00 Melodie. 15.30 Kto czyta nie błądzi. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Ekran z Bratkiem. 17.55 Patrol. 18.20 Sonda. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Teatr Sensacji: J. Han „Okup dla wszystkich". 21.50 Pegaz. 22.25 Dziennik. 22.50 Kto ma rację.

**Piątek 14 IV** — 6.00 RTSS. J. pol. Sem. II. 6.30 Mat. Sem. II. 11.05 Dla kl. VII Wych. ob. 12.00 Dla kl. VIII Wych. ob. 12.45 TTR. Upr. rośl. Sem. IV. 13.25 Mech. rol. Sem IV. 14.55 Pr. dnia. 15.00 Melodie. 15.30 NURT — ped. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Dla dzieci. 17.00 Spotk. z medycyną. 17.20 Kryptonim Stella — odc. 1 filmu ser. 18.40 Magazyn motor. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Parada oszustów — odc. IV kom. krym. 21.40 Sami swoi — pr. muz. 22.10 Dziennik. 22.25 Studio teatralne: H. Ibsen„ Gdy wstaniemy z martwych".

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 7 IV** — 10.00 Koncert. 13.45 Konkurs śpiew. 15.00 Literacka Białoruś. 18.50 Film fab. 20.30 Międzynar. turniej gimnast. 21.15 Pr. roz.

**Sobota 8 IV** — 15.00 Koncert. 16.00 W świecie zwierz. 17.00 P. nożna. Dynamo (T) — Spartak (M). 18.55 Film fab. 20.30 Koszykówka. ZSRR—Kuba.

**Niedziela 9 IV** — 10.00 Film fab. 11.00 Koncert. 13.00 Spektakl. 15.00 Panorama międzynar. 15.30 Filmy anim. 16.15 Pr. muz. 17.15 Klub film. 20.30 Festiwale, konkursy, koncerty.

## ГАВОРЫЦЬ БЕЛАСТОК!

Беларуская радыёперадача: субота, 12.05 — 12.25 (UKF).

## КІНО

**Białowieża** Libera moja miłość — wł. 11—12. Stróż plaży w sezonie zimowym — jug. 13—14. Pierwsza spokojna noc — wł. 15—16.

**Bielsk Podl.** Nakarmić kruki — hisz. 11—12. Lokator — fr. 13—14. Wilczym śladem — radz. 15—16.

**Czeremcha** Eliksir młodości — rum. 11—12. Spotkanie — ang. 15—16.

**Czyże** Sam na sam — pol. Ostatni bał w Rożnowie — czes. 12—16.

**Dubicze Cerk.** Zerwana nić babiego lata — Konie Valdeza — wł. 12—16.

**Gródek** Libera moja miłość — wł. 15—16.

**Hajnówka** Światło — fr. 10—12. Rodzinny melodramat — radz. 13—14. Dźwięk fujarki — radz. 15—16.

**Michałowo** Biały Baszłyk — radz. 11—12. Po drugiej stronie słońca — ang. 13—14. Miłosna edukacja Walentego — fr. 15—16.

**Mielnik** Tajemniczy upiór — węg. 12. Piraci na Pacyfiku — rum. 15—16.

**Milejczyce** Szczury Paryża — fr. 12. Kochaj albo rzuć — pol. 15—16.

**Narew** Anna siostra Jany — czes. Wagon sypialny — jug. 12—16.

**Narewka** Dziewczynka z Hanoi — wiet. Nie ma dymu bez ognia — fr. 12—16.

**Nurzec** Wesele — pol. 11—12. Ostatni beztroski miesiąc — czes. 13—14. Za rok, za dzień, za chwilę — pol. 15—16.

**Orla** Magiczny kamień — NRD. Samotnik — fr. 12—16.

**Rajsk** Alicja już tu nie mieszka — USA. Jak car Piotr Ibrahima swatał — radz. 12—16.

B.Z.Graf. Zam. nr 763, 7.600 egz. N-4

(Працяг са стар. 1)

# БРАНСК

Рудскае пад Бранскам) была рудня, млын і фолюш, але ўжо ў часе люстрацыі паклады руды канчаліся, а ў навакольных лясах не было з чаго выпальваць вугаль і таму рудня спыніла сваю дзейнасць. Ад гаспадарчага росквіту мястэчка пад уладай Боны не было палёгкі прыгоннаму сялянству, і калі ў 1648 г. успыхнула сялянская вызваленчая барацьба на Украіне і Беларусі, да яе далучыліся і жыхары тагачаснага Бранскага староства ў сіле сямі тысяч узброеных косамі, цапамі, віламі ды каламі чалавек. Толькі ў канцы года ўсеагульнаму апалчэнню падляшскай шляхты ўдалося патапіць у крыві гэты гераічны сялянскі парыў. Але традыцыя не загінула.

Сярод салдат і афіцэраў кватэраваўшага ў Бранску батальёна царскіх войск (сапёраў) актыўна дзейнічаў дзекабрыст капітан Канстанцін Ігельстром. Бранскі батальён пад яго ўздзеяннем адмовіўся прысягнуць на вернасць толькі што ўступіўшаму на прастол цару Мікалаю і такім чынам далучыўся да паўстаўшых у Пецярбурзе войск. Калі паўстанне было задушана, К. Ігельстром быў асуджаны царскім судом на 10-гадовую катаргу ў Сібіры.

У часе нямецкай акупацыі ў апошнюю вайну ў Бранску актыўна працавала камуністычнае падполле. Бранскі падпольны раённы камітэт камсамола, які паўстаў 15 снежня 1943 года, узначальваў юны камуніст І. Чалы. У ваколіцах Бранска дзейнічалі партызанскія атрады імя Ф. Дзяржынскага і імя Г. Жукава. Іменна непадалёк мястэчка, у Бранскім лесе, 5 мая 1944 года атрад імя Г. Жукава ўступіў у бой з нямецкай аблавай. Партызаны забілі або ранілі 21 фашыста, самі страцілі 2 сваіх сяброў.

За гады народнай улады Бранск абнавіўся, стаў чысценькім і ўтульным цэнтрам вялікай гміны. Цяпер у ім жыве каля 3 тысяч насельніцтва. У асноўным гэта сяляне, бо ў мястэчку налічваецца звыш 500 гаспадарак. Большасць з іх гэта маленькія, некалькігектаровыя гаспадарачкі. Але побач з такімі ёсць і вялікія, высокатаварныя. Напрыклад, Уладзіслаў Гіжэўскі са сваёй 15-гектаровай гаспадаркі штогод прадае дзяржаве па 1031 кг свініны з гектара, гадуе ён 20 свінаматак, а Станіслаў Чаркоўскі на 10-гектаровай гаспадарцы трымае 10 штук дойнага быдла і дастаўляе ў год па звыш 3 тысячы літраў малака з гектара. Малады селянін Францішак Конрад спецыялізуецца ў гадоўлі малочнага і ўбойнага быдла, ужо мае 8 дойных кароў і 10 штук маладняку, як многа іншых.

Цяпер Бранск у асноўным выконвае ролю гандлёва-рамесніцкага цэнтра для сваёй і навакольных гмінаў. Тут даволі добра працуе ГС, ён намагаецца належна арганізаваць паслугі для сялян у транспарце, будаўніцтве, рамонце машын і, зразумела, у гандлі. І так, у 1977 годзе ён скупіў ад сялян сельскагаспадарчых прадуктаў на суму 136 мільёнаў злотых і прадаў прамысловых тавараў і спажывецкіх прадуктаў на суму 192 млн. зл. Кааператыўнае прадпрыемства „Вспулпраца“ вырабляе значную колькасць абутку, працуе ў ім звыш 80 жанчын, а ў кааператыўным Доме паслуг знайшло занятак каля 30 чалавек. У мястэчку ёсць шмат шавецкіх, кравецкіх, слёсарскіх і іншых прыватных рамесніцкіх майстэрняў, але найбольш — рымарскіх, бо дагэтуль усё яшчэ асноўнай цяглавай сілай з'яўляюцца коні, ды і надта ж любяць тутэйшыя людзі гэтую жывёлу.

Хоць і нясмелыя, але паяўляюцца ў Бранску і праблескі культурнай дзейнасці: спявае і іграе маладзёжны калектыў у гарадской святліцы, ёсць духавы аркестр пры дабравольнай проціпажарнай камандзе. Нарадзілася ініцыятыва стварыць Бранскі рэгіянальны музей. І варта, бо Бранск, як бачым, мае вельмі багатую і цікавую гісторыю.

**Мікалай Гайдук**



# МАЙСТАР НА ЎСЕ РУКІ

## МІХАСЬ АСТАШЭЎСКІ

У нашых вёсках Беласточчыны шмат таленавітых людзей, людзей з залатымі рукамі. Неаднойчы іх дапамога, малаважная на першы погляд, вельмі патрэбная ў штодзённым жыцці. Возьмем для прыкладу такі факт. Сапсуецца жалязка, або корак у электрычным дамашнім лічніку. Многія не ўмеюць, не могуць справіцца нават з такімі дробязямі. Далёка не ў кожнай сям'і ёсць каму добра навастрыць ножніцы і ножык ад мясарубкі.



Цяпер на вёсках бытавой тэхнікі многа. У кожнай культурнейшай хаце ёсць і пыласос і сціральная машына. Нічога няма вечнага. І гэтыя машыны час ад часу трэба рамантаваць. Пераважна пункты такіх паслуг знаходзяцца ў гарадах. Везці ў горад рамантаваць пыласос ці сціральную машыну — вельмі клапатлівая справа, не гаворачы ўжо аб страце часу. І як добра сялянам, калі ў вёсцы ёсць такі чалавек, які ўмее іх наладзіць. Усё, што вышэй сказана, звязана з асобаю Міхася Асташэўскага з Новай Волі, што знаходзіцца ў некалькіх кіламетрах ад Міхалова. Ён майстар на ўсе рукі, вельмі здольны чалавек. Умее ён наладзіць і матаролер, і матацыкл. Мае ўласную легкавую машыну „Сірэнку“. І калі што ў ёй сапсуецца, яму не патрэбны механік — ён сам самародны механік. Сам сабе ладзіць таксама тэлевізар.

Ды ён на рабоце выконвае функцыю механіка. А працуе Міхась Асташэўскі ў міхалоўскай цагельні (у Лясанцы). Зімою рамантуе ў цагельні машыны, а калі ўжо няма холаду, калі прадукуецца цэгла, тады ён з'яўляецца машыністам невялікага паравоза свайго прадпрыемства. (Атрымаў ён правы машыніста. Мае таксама правы вадзіцеля легкавых машын).

Жыхары Новай Волі кажуць, што Міхась Асташэўскі пайшоў па бацьку, які быў добрым столярам і муляром. Але ў гэтым месцы неабходна сказаць тое, што здольнасці сына пашырыліся і на механіку.

Калі Міхась Асташэўскі хадзіў у пачатковую школу, выдзяляўся ён ужо тады ў тэхнічных справах. У 10 год сам адрамантаваў веласіпед, а ў 16 год правёў электрычныя лямпачкі ў хлявах. Пры бацьку столяру меў магчымасць нагледзецца, як трэба карыстацца сталярскімі машынамі і прыладамі, як пры дапамозе іх трэба рабіць сталярку. І навучыўся рабіць вокны, дзверы, сталы, шафы. Калі трэба, дык і цяпер гэтым займаецца.

Добра ў яго выходзяць мулярска-бетанярскія работы. Ён і муруе і тынкуе, робіць фундаменты пад будынкі, сходкі, цэментную падлогу. Не так даўно змураваў сабе гараж, атынкаваў яго, парабіў тынкі ў хаце. Правёў у хату ваду, падрыхтаваў месца на туалет і ванну. На гары ўставіў 200-літровы бак (зрабіў з вялікай бочкі), ацяпліў яго пілавіннем, у туалеце паставіў помпу і зрабіў, каб награвалася вада з пліты.

Міхась Асташэўскі разам са сваёй маці і жонкай Марысяй шмат прысвячаюць часу гаспадарскім работам. Абрабляе ён больш як тры гектары зямлі, гадуе кароў, авечак, курэй і 15 штук нутрый.

У хаце Асташэўскіх чысціня і заможнасць, на панадворку парадак, а ўсе будынкі маюць эстэтычны выгляд. Па выгляду дзяцей, з размовы з жонкай і маці адчуваецца, што ў гэтай сям'і пануе згода і лад.

Тэкст і фота
**М. Хмялеўскага**

(Працяг са стар. 1)

# НА ГРАНІЦЫ

гаспадарку і ўжо падаў заяву, каб прадалі мне пару гектараў з дзяржаўнага фонду зямлі.

— Так, мой сын вельмі працавіты, — уключылася ў гутарку старэйшая, амаль 70-гадовая жанчына. — Такім я яго выхавала. Гадавала сама, бо ўжо 40 гадоў жыву без мужа. Памёр мой галубчык ад прастуды, пакінуўшы мяне з двума маленькімі сынамі. Адзін з іх, старэйшы, аж у Любані, на чэхаславацкай граніцы абсталяваўся, а другі, Толік, астаўся тут, у Вычулках. І так мы жывем. Стараемся, каб было добра і сабе, і каб для панства яшчэ асталося. Раней то бугаі жондовы, то кнуры таксама жондовы трымаў, каб які грош быў...

— А цяпер?

— Цяпер, — кажа гаспадар, — я больш жму на гадоўлю кароў. Маю чатыры дойныя каровы, якія даюць мне кожны месяц ад 4 да 6 тысяч злотых прыбытку. Апрача гэтага па-даўнейшаму гадую свінак, крыху сабе, а крыху на продаж, а таксама кармлю бычкоў.

— А ўсё ж, тата, — гаворыць сын, — трэба нам заводзіць спецыялізацыю, гадоўлю букатаў.

— То ж і на свіней цяпер цана падхадзяшча, — кажа бацька. — Толькі трэба гадаваць не адну-дзве штукі, а прынамсі 30-50...

Не дачакаўся я вырашэння гэтай сямейнай спрэчкі. Прыйшлося развітацца. Яшчэ толькі даведаўся, што Анатолю Міткевічу ў апошніх выбарах даверылі абавязкі раднага, што хацеў бы ён, каб у Вычулках адкрылі якую-колеч краму, каб за кожнай дробяззю неганяцца ў Клюковічы. І яшчэ ён хацеў бы, каб хадзіў да іх аўтобус ПКСу — той самы, які цяпер паварочвае назад у Клюковічах. Аднак дзеля гэтага неабходна адрамантаваць дарогу між Вычулкамі і Клюковічамі.

— Мы гэта зробім грамадскім чынам, — заяўляе радны Міткевіч.

Значыць, і тут, у гэтым глухім кутку над граніцай, бурліць звычайнае жыццё — як усюды, як у цэлай краіне.

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара



*Анатоль Міткевіч — гаспадар з прыгранічнай вёскі Вычулкі, радны гміннай рады нарадовай у Нурцы.*

(Працяг са стар. 1)

# СУТНАСЦЬ ВУЧОНАГА

Пасля паспяховага заканчэння агульнаадукацыйнага ліцэя ў Драгічыне К. Віснеўскі паступае ў Беластоцкую медыцынскую акадэмію. Тут ён з галавой акунаецца ў навуку і дзейнасць у маладзёжных арганізацыях. Наколькі інтэнсіўнае было гэтае заангажаванне, сведчыць факт, што ўжо пасля трэцяга курса прафесар Я. Керш запрашае яго на намесніка асістэнта на аддзяленні фармакалогіі. Гэта быў першы і надта ўдалы, як потым аказалася, крок у навуку, хоць напэўна не лёгкі, бо патрабуючы самаахвярнасці, вытрымкі, замілавання і асноўнае — нястомнай працы. Калі ж у 1959 годзе ў яго руках быў ужо дыплом заканчэння Акадэміі, можна было перадыхнуць, даць сабе палёгку. Але дзе ж там! Цяпер толькі і пачалося: у 1963-м абарона доктарскай дысертацыі, у 1966-м навуковая стажыроўка ў Нью-Йорку, у 1968-м габілітацыя і атрыманне звання дацэнта, у 1969-м яму даручаюць кіраўніцтва аддзяленнем фармакалогіі, у 1970-м таварышы выбіраюць першым сакратаром падставовай партыйнай арганізацыі ПАРП навуковых працаўнікоў, у 1972-м выбар дэканам Лекарскага факультэта, а ўсяго праз два гады пасля гэтага Рада Дзяржавы прысвойвае яму званне прафесара і яго назначаюць рэктарам Акадэміі. Страшэнна хутка падымаўся ён па навуковай і грамадскай лесвіцы. Ва ўсёй Польшчы быў ён самым маладым кіраўніком аддзялення фармакалогіі, самым маладым прафесарам фармакалогіі і адным з наймалодшых рэктараў Медыцынскіх акадэмій.

— Ці не было ў мяне хістанняў, сумненняў пры выбары напрамку дзейнасці? Былі, ды яшчэ якія! Доўга не мог я рашыць, ці прысвяціць сябе медыцынскай практыцы, гэта значыць непасрэднаму лячэнню хворых, ці тэорыі медыцыны або інакш — даследаванням і пошукам новых сродкаў і метадаў лячэння. Спачатку перамог у мяне першы напрамак, і я працаваў у бальніцы. Працавалася мне вельмі плённа. Але ўсё ж перамагло захапленне тэарэтычнымі навуковымі медыцынскімі даследаваннямі, і яны прыносілі і прыносяць мне па сённяшні дзень найбольшае задавальненне. І калі б сёння зноў паўстала пытанне, што мне выбіраць, я напэўна выбраў бы іменна даследаванні ў галіне фармакалогіі. Па-мойму, фармакалогія валодае неабмежаванымі магчымасцямі адкрываць таямніцы людскога жыцця. Прымяняючы тыя ці іншыя лякарствы і сочачы, як яны ўздзейнічаюць на той ці іншы наш орган, мы лечым яго і адначасова сочым за тым, як ён паводзіць сябе, і такім чынам паглыбляем свае веды аб дзейнасці дадзенага органа, зразумела, свае навуковыя даследаванні спалучаў бы, як гэта ўвесь час і раблю, з навучаннем маладога пакалення спецыялістаў. Мне здаецца, што толькі перадаючы свае веды моладзі, можа поўнасцю выявіцца і здзейсніцца сутнасць вучонага.

Але не адно гэта займае рэктара К. Віснеўскага. Ён жа ўзначальвае аграмадны навукова-педагагічны комплекс Беластоцкай медыцынскай акадэміі, у якім, у сучасны момант займаецца 1900 студэнтаў, працуе 457 асоб навуковых супрацоўнікаў і занята звыш 1000 іншых працаўнікоў. Ва ўладанні Акадэміі знаходзяцца навейшыя навукова-тэхнічныя абсталяванні і каштоўнейшая апаратура, аграмаднейшая спецыялістычная бібліятэка, комплексы будынкаў — усё гэта вартасцю ў некалькі мільярдаў злотых. А, як вядома, вырашаць персанальныя і гаспадарчыя справы — гэта зусім не лягчэй, чым даследаваць самыя складаныя навуковыя праблемы.

— Ці здзяйсняецца мой жыццёвы ідэал, што я паставіў перад сабою яшчэ ў юнацтве, пытаецца, — рэктар на хвіліну задумваецца. — Так, якраз цяпер ён набывае поўнае ажыццяўленне. Удумайцеся толькі ў вымову гэтых лікаў: у 1950 годзе, у часе адкрыцця Беластоцкай медыцынскай акадэміі, на ўсім абшары тагачаснай Беласточчыны, гэта значыць, на асноўнай тэрыторыі цяперашніх Беластоцкага, Ломжынскага і Сувальскага ваяводстваў, было каля 60 лекараў, а ў 1975 годзе іх ужо працавала тут каля дзвюх тысяч. У гэтай сапраўднай арміі службы здароўя каля паўтары тысячы складаюць выхаванкі нашай

## КАЗКІ ПУШЧЫ

### ЯК МУЖЫК СВАЮ ЖОНКУ СЛУХАЦЬ ПЕРАСТАЎ

Адзін мужык зграбаў сена на лузе, што над пушчанскай рэчкай працІраўся. Ён гроб яго ў валкі, пластаваў у капіцы, выносіў на бераг ды на воз ладаваў. Ажно звочыў: на сенажаці іголка блішчыць. Узрадаваўся ён знаходцы, устраміў яе ў сена і паехаў дадому.

Прыязджае на падворак і кліча жонку:

— Жоначка, жоначка, я табе падарунак прывёз!

— Няўжо?

— А як жа ж, іголку знайшоў.

— А дзе ж ты яе задзеў?

— У воз з сенам паклаў.

— А хто ж знойдзе іголку ў возе сена! — разззлавалася жонка. — Трэба было яе сабе за пазуху ўтыркнуць.

I сказаў сабе мужык: „Усё знойдзенае заўсёды буду хаваць за пазуху".

На другі раз вяртаўся мужык з фураю дроў з пушчы і заўважыў: парася па дубняку бегае. Злавіў ён жывінку, схаваў яе сабе за пазуху, як жонка казала, і паехаў дахаты. Парася тое паквічэла-паквічэла, пакруцілася-пакруцілася за мужыковай кашуляй ды заціхла. А мужык едзе сабе і аж прыпявае ад задавальнення.

Прыязджае на панадворак і кліча жонку:

— Жоначка, жоначка, я табе прыбытак прывёз!

— Няўжо?

— А як жа ж, парася злавіў.

— Штосьці я парасячага квіку не чую, — падазрона паглядае жонка на мужыка і пытаецца: — А дзе ж ты падзеў яго?

— За пазуху схаваў, так як ты мне казала, — адказвае той ды мац-мац па кашулі, а там даўно пуста. — Бач ты, яно ж уцякло.

— Ці бачыў ты, каб хто свіней за пазухай вазіў? — накінулася на мужыка жонка. — Трэба было парасяці за ножку шнурочак прычапіць ды да воза прывязаць і на падворак прыгнаць.

I падумаў сабе мужык: „Цяпер усё знойдзенае заўсёды буду прывязваць да воза".

Вяртаўся ён аднойчы з млына і бачыць: на дарозе ляжыць кавалак саланіны. Адвязаў мужык ад свайго лапця аборку, за адзін канец яе прычапіў саланіну, а другі прывязаў да воза і паехаў дахаты, пасвістваючы ад радасці.

Прыязджае на падворак і кліча жонку:

— Жоначка, жоначка, я табе гасцінец прывёз!

— Няўжо?

— А як жа ж, цэлы полаць акрасы прыдбаў.

— Неяк я не знаходжу тае акрасы, — кажа жонка, сярод мяшкоў у палукашках шукаючы. — Дзе ж яна?

— Як то дзе? — кажа мужык. — Як ты мне казала, і я яе на шнурочку прывязаў да воза.

Яны да таго шнурка, а там толькі кавалачак скуркі целяпаецца, бо ўся саланіна па дарозе аб каляіны абабілася ды выцерлася.

— Ну і хто ж гэта бачыў, каб акрасу на аборы за возам валачы! — ускіпела жонка. — Трэба было яе ў хусцінку загарнуць ды у торбу пакласці.

I тады пакляўся сабе мужык: „Усё знойдзенае толькі ў торбу буду класці".

Ехаў ён аднаго разу з торгу і дагнаў свайго суседа: той з мястэчка пехатою вяртаўся.

— Давайце, суседзе, я вас на воз вазьму, — кажа мужык. — Толькі зараз у хусцінку загарну ды ў торбу ўсаджу.

Як на зло, сусед жа той невялічкі ростам быў ды і абразіўся ненажарты.

— Нічога, што я маленькі, — раскрычаўся. — Але ж навучу цябе розуму, што і ўвек не забудзеш!..

Кінуўся ён у лес, выламаў дубіну ды да мужыка падскочыў. Той жа як убачыў, што справа дрэнь — па кані ды наўцёкі, аж калёсы па калдобінах ды карэннях затанцавалі.

I так з таго часу перастаў той мужык жонку слухаць ды пачаў сваім розумам жыць.

**Апрацаваў Мікалай Гайдук**

(Працяг са стар. 3)

## БУСЛЫ ВЯРНУЛІСЯ

ся. Але, убачыўшы задумлівы і спахмурнелы твар бацькі, здзівіўся.

— Чаму яны вярнуліся, тата?

Тата прынёс ад хлява драбіну і палез на дах. Дзяніска хваляваўся: ці не спалохаюцца буслы? Але буслы нерухома сядзелі прыціснуўшыся адзін да другога, безбаронныя і бездапаможныя.

Бацька ўзяў птушак на рукі і спусціўся з імі ўніз. Ён пачаў агладаць і абмацваць буслоў, і раптам яго пальцы затрымаліся на крыле бусліхі...

— У яе было пераламана крыло, — сказаў тата, — вось чаму яна не паляцела...

— Тут жа яна лётала! — крыкнуў Дзяніска.

— Лётаць лётала, але вырай — далёка, ёй не адолець гэтай дарогі...

— А бусел чаму вярнуўся?

— Эх, сынок, сынок! — уздыхнуў тата. — Верны ён сваёй сяброўцы, вось таму і застаўся.

Бацька занёс птушак у хату і пайшоў на работу. Дзяніска накрышыў хлеба, і птушкі падзяўблі. Наліў у місачку вады, яны папілі. Дзяніска павесялеў.

Вечарам тата занёс птушак у хлеў. Так і зімавалі яны ў хляве, каля каровы. А ў вялікія маразы іх забіралі ў хату.

Нарэшце пацягнуліся ў небе чароды пералётных птушак, а ў адзін цёплы веснавы дзень Дзяніска з татам вынеслі бусloў на двор.

Буслы цяжка ўзмахнулі крыламі і паляцелі, набіраючы вышыню.

Дзяніска радасна ўсміхнуўся, наглядаючы за птушкамі.

Аднак хутка яны апусціліся на страху хаты і па-гаспадарску пахаджвалі там, як і мінулай вясною. Вось бусліха ўзляцела на сваё гняздо, шчыпанула нейкую галінку, паправіла іншую...

У гэты дзень не было чалавека, шчаслівейшага ад Дзяніскі.








*Спявае Ася Бяроза са Старыны.* *Фота Я. Целушэцкага.*

№ 15 (1078) ГАЗЕТА БЕЛАРУСКІХ ДЗЯЦЕЙ У ПОЛЬШЧЫ 9.IV.1978 г.

## ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

* * *

Адзін вядомы пісьменнік едзе поездам. Уваходзіць кантралёр. Пісьменнік шукае па кішэнях і не можа знайсці свой білет.

— Не шукайце, — кажа кантралёр. — Я веру, што вы купілі білет.

— Але я мушу знайсці, бо там напісана, куды я еду.

* * *

Пасажыр звяртаецца да кандуктара:

— Поезд ужо спазняецца на паўгадзіны.

— Не хвалюйцеся, — адказвае кандуктар, — ваш білет важны тры месяцы.

Настаўнік:

— Што такое электрычнае поле?

Вучань:

— Гэта поле, па якім праходзіць высакавольтная лінія.

* * *

Настаўніца:

— Што ты яшчэ можаш расказаць аб дзікай качцы?

Вучань:

— Што яна шчыпаецца.

* * *

Настаўніца:

— Назаві складаны назоўнік.

— Каляровы тэлевізар.

* * *

На вуліцы да малога Петруся падбег сабака. Спачатку яго абнюхаў, а потым лізнуў па твары. Спалоханая маці пытаецца ў сына:

— Што, укусіў цябе?

—Не, толькі пакаштаваў.

* * *

Вечарам маці кажа да сына:

— Ты, Іван, сёння нічога не рабіў, дык і вячэры не атрымаеш.

— Добра, — кажа Іван, — але што зробім з лякарствам, якое трэба прымаць пасля яды?

## АДГАДАНКА



**Падсумуй лічбы, з якіх складаецца партрэт, і тады даведаешся, колькі кіламетраў ад сталіцы жыве гэты смешны чалавек.**

Адрас рэдакцыі: „Зорка", 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.

## ФОТА ПА ЗАКАЗУ

# АВВА



Заказвала Галіна Красько з Ягаднік.

## Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка, збіралася я напісаць да цябе ўжо даўно, калі прачытала ліст, у якім пісала жанчына, што развялася яна з мужам, асталася з дзіцём. Яшчэ маладая, магла б выйсці замуж, але жыццё ўжо яе настрашыла, баіцца... І ты, Сэрцайка, раіла ёй выйсці замуж, толькі асцярожна, не спяшаючыся, добра пазнаўшы партнёра. А мае справы могуць быць прыкладам на тваю параду. Таму і хачу, каб надрукавала ты мой ліст. Хай тыя, каму не павязло ў замужжы першы раз, не трацяць надзеі, не думаюць, як і я спачатку, што ўсяму ўжо канец, што ўжо суджана адной усё жыццё быць. Першы раз выйшла я замуж у 18 год за хлопца, які пасля аказаўся гультаём і п'яніцай. Умеў ён спяваць, танцаваць і падміргваць, як ніхто іншы. І гэта мне падабалася, гэтым я захаплялася. Маіх адносін да яго не змяніла нават тады, калі даведалася, што ён па-п'янаму разбіў галаву свайму сябру. Нарадзілася ў нас дзіця, а свайго гуляку мала я бачыла цвярозым. У яго сябры, усялякія справы, толькі не сям'я. І прамучылася я з ім пяць гадоў. Урэшце падала на развод. Асталася тады адна з дзіцём. Маладая была, хлопцы заляцаліся, але баялася я іх, усіх да мужа раўняла. Ішоў час. І пазнаёмілася я з Юркам. Быў ён зусім іншы ад майго першага мужа — скромны, спакойны, на забавы і да калег яго не цягнула. Ужо праз месяц запрапанаваў жаніцца. Але я не спяшалася, як кажуць, на гарачым апяклася, дык і на халоднае дмухала. Хадзілі мы больш года. Я яшчэ баялася, што ж будзе з дзіцём, ці будзе Юрка яму добры. А ўжо тры гады мінула, як мы пажаніліся. Ужо другое дзіця нарадзілася. І шчаслівы і мы, і нашы дзеці. Муж аднолькава апякуецца і цешыцца як адным, так і другім дзіцём. Маё жыццё стала светлым, сонечным днём.

Аня з Беластока

Дзякуем за ліст. Ахвотна надрукуем выказванні іншых чытачоў на гэтую тэму.

**Сэрцайка**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Дарагі Астроне! Сніцца мне, што ў маёй школе трэба паміраць майму хлопцу. Гэта была нібы школа-бальніца. І вось я пытаю сябра, які нёс труну, ці ўжо ён памёр. Ён адказвае, што ўжо. Тады я з плачам пабегла па сходах уверх. Адтуль ішло вельмі многа людзей (вучняў) так, што не можна было прайсці. Я крычала: „Пусціце мяне!". І вось я бачу, ідзе ён. Ён убачыў мяне, абняў, і мы ўдваіх пайшлі. Што можа абазначаць гэты сон?

Бэата з П.

Астроне! Не ведаю, ці надрукуеш мой сон, я дрэнна пішу па-беларуску, хаця чытаю кожную „Ніву", мая мама выпісвае, але я буду вучыцца пісаць, каб свае сны пісаць. Мне ўсяго 16 год. Снілася мне, што я купіла 1 кг прыгожых, смачных яблыкаў. Што гэта значыць?

Аня з Белавежы

**Бэата з П.!** Чакае цябе здароўе і спакой (школа табе ў сне прадставілася як бальніца). Будзе і радасць, бо ты плакала. Можа гэта будзе вяселле з тваім хлопцам, бо ты ж бачыла труну, а труна для маладых абазначае вяселле і спакойнае жыццё.

**Аня з Белавежы!** Я зразумеў, што гэта пісьмо напісала за цябе мама. Вучыся пісаць сама па-беларуску і не толькі дзеля таго, каб пісаць да Астрона. Сваю мову трэба ведаць і шанаваць. Цяпер наконт твайго сну. На жаль, не магу цябе пацешыць. Яблыка, нават калі б яно было самае прыгожае і смачнае, заўсёды, аднак, абазначае нейкую сварку.

**Астрон**

ПЫТАННЕ: Е. падала ў суд на развод. Ці можна ў часе судавядзення патрабаваць, каб адначасова з разводам быў праведзены падзел маёмасці? У свайго працадаўцы яна пазычыла грошы на ўклад у жыллёвы кааператыў. Як справа адносна гэтай пазыкі павінна быць вырашана пры падзеле маёмасці? Ці муж мае на яе права?

АДКАЗ: Патрабаваць падзелу маёмасці можна ў паданні аб разводзе, або ў час судавядзення справы аб разводзе, пакуль не будзе выдадзена рашэнне ў першай інстанцыі. Калі справа аб падзеле супольнай маёмасці не будзе вырашана ў справе аб разводзе, можна патрабаваць падзелу ў асобнай справе.

## Кансультацыя ЮРЫСТА

Калі пазыка на кааператыўную кватэру была ўзята пасля шлюбу і перад разводам, грошы гэтыя ўваходзяць у супольную маёмасць. У час падзелу маёмасці ў гэткіх справах суд прызнае ўклад на кватэру мужу або жонцы, адпаведна да таго, каму трэба было б прызнаць кватэру, калі б яна была жыллёвым кааператывам прыдзелена. Той, каму прыдзелены ўдзел, павінен сплаціць яго палову. Аднак, калі б пазыка не была сплачана, ад маёмасці, якая дзеліцца, трэба адняць суму, роўную нясплачанай пазыцы. Не мае пры гэтым значэння, ці муж памагаў пры сплаце пазыкі. Толькі ў выпадку, калі б муж не спрыяў паўстанню супольнай маёмасці, існуе магчымасць абніжэння яго ўдзелу ў маёмасці, або поўнае пазбаўленне права на маёмасць, якая ўзнікла ў часе супольнага жыцця.

## Куток практычных ведаў

### Пашый сам!

У мужчынскай модзе змены невялікія. Спартыўны стыль надалей існуе побач з класічным.

Змяніліся, аднак, радыкальна мужчынскія кашулі. На жаль, наша прадукцыя не заўсёды паспявае за апошняй модай. Таму прапануем сёння кашульку, якую мы прадстаўляем на здымку, пашыць самім.

Звярніце ўвагу на матэрыял. Наймаднейшым з'яўляецца палатно ў палоску ці ў клетку. Галоўнае — каб не нейлон, а калі будзе з нейкага сінтэтычнага матэрыялу, дык каб прынамсі імітавала палатно.

Абавязкова гляньце на каўнерык. Сёння ўжо не робяць вялікіх каўняроў, як было гэта ў апошні час — робяць малыя, амаль прамавугольныя каўнерыкі, часта яны зашпіляюцца на гузікі.

На нашым здымку каўнерык і манжэты белыя, зашпілены на гузікі. У кашулі ёсць таксама кішэні на грудзях. Гальштук з таго ж самага матэрыялу, толькі палоскі ідуць укосна.

**Сяброўка**



А. ВОІНАЎ

## КАМЕН-ДАНЦКАЯ ГАДЗІНА



ДАКУМЕНТАЛЬНАЯ АПОВЕСЦЬ

Што здарылася? Падсвядома, але да болю адчувальна Лена зразумела: маленькі, яшчэ зусім слабы мосцік, які, здавалася, ужо злучае іх, вось-вось рухне.

Счапіўшы на каленях рукі, яна вывучала яго твар, шукала патрэбныя словы, не знаходзіла іх — і з жахам разумела, што кожнае імгненне ўсё больш аддаляе іх адзін ад аднаго, і калі маўчанне працягнецца яшчэ крыху, то адчужанасць стане незваротнай.

— Міша, што здарылася? — нарэшце спытала яна, зрабіўшы над сабой пакутлівае намаганне.

— Ты палонная? — раптам ціха спытаў ён і змоўк, дапытліва гледзячы ёй у вочы.

Што адказаць? Яна чакала ўсяго, але не гэтага пытання, зададзенага ва ўпор. Чаму гэта так для яго важна?

— Цябе ў Крыме ўзялі? — спытаў ён, не зводзячы з яе твару дапытлівага, трывожнага позірку.

— У Крыме, — сказала Лена.

— Пад Керчу?

— Так, — прашаптала яна, баючыся, што ён спытае яшчэ аб чым-небудзь, што могуць ведаць толькі тыя, хто сапраўды быў пад Керчу, і тады ён адразу зловіць яе на хлусні.

— Добра, — ён абвёў языком сухія вусны. — Добра... Я табе ўсё пра сябе скажу. Ты мяне не выдасі?

— Міша!

— Я разумею, — хуценька прамовіў ён. — Усё так цяжка! Мы ўсе ходзім па пацёмку. І ты і я... Я стаміўся баяцца людзей. Я хачу табе верыць. Хачу! — Ён нахіліўся да яе вуха. — Я таксама палонны... Але гэтага тут ніхто не ведае.

— Ты ўтаіў!

— Так. Я быў разведчыкам... Прахладную ведаеш? На Паўночным Каўказе. Мы там трапілі ў акружэнне.

Ён змоўк і адсунуўся на край дошкі. Што ён ад яе хоча? Споведзі ў адказ?.. Душэўная браня, якая да гэтага часу ахоўвала яе ад небяспекі, пачала раптам плавіцца. Не, не, нельга давярацца мінутнай слабасці чалавека.

— Выжылі мы з табой, а што з гэтага! — злосна сказаў ён. — Пад немцамі ходзім. Хаваемся... І нават сэрцам баімся прыхінуцца адзін да аднаго.

Лена памаўчала. Цяпер яна разумела, што кожнае сказанае ёю слова павінна быць дакладным. Але якія гэта павінны быць словы?

— Міша, — спытала яна, — а дзе ў цябе маці?

— У Адэсе.

— І яна ўсё ведае?!

— Так. Усё ведае. І кожны вечар з трывогай чакае: ці вярнуся?

Не, так не можа гаварыць чалавек, які хлусіць. Але як цяжка сказаць аб тым, што павінна сказаць! Менавіта цяпер, у гэту мінуту. Калі яна яе прапусціць, то назаўсёды страціць на гэта права.

— А ты не думаеш, Міша, што многае залежыць ад цябе?

Ён паківаў галавой і ўсміхнуўся.

— Ты хочаш, каб я змагаўся адзін? Каб мяне тут жа схапілі і павесілі на Прыморскім бульвары?

— Што ж ты хочаш?

Ён глыбока ўздыхнуў.

— Што я хачу? Знайсці правільных людзей, вось што, Лена, я хачу...

— І што б ты тады рабіў?

Ён устаў. Засунуў рукі ў кішэні.

— Давай, Ленка, працаваць...

Да іх падыходзілі ўжо іншыя грузчыкі. Абедзенны перапынак скончыўся. Да вечара яны не прамовілі больш ніводнага слова.

Вяртаючыся дамоў, Лена думала: што ёй цяпер рабіць з Надзяй? Размова з Мішай на прычале патрабавала стараннага абмеркавання. Яна ўрэшце рэшт проста не мае права прымаць самастойнае рашэнне. Міша быў як быццам шчыры, але дзе гарантыя, што ў апошні момант не спалохаецца, як было з Марыяй Апанасаўнай?

Калі Лена прыйшла дамоў, абед ужо чакаў яе на стале. Уладкаваўшыся на ложку, Надзя чытала „Молву"*. Вочы іх сустрэліся, і Лена зразумела, што Надзя таксама перажывае.

— Ну добра, дурніца, — сядаючы за стол, сказала Лена. — Хопіць нам сварыцца. Слухай, ёсць важныя навіны!.. Яна падышла да акна і доўга глядзела на вячэрнюю вуліцу.

— Надзя! — прамовіла яна. — Надзя, я даверылася аднаму чалавеку. Але я яго амаль не ведаю. Амаль не ведаю...

Надзя кінула газету, устала з ложка і сунула ногі ў паношаныя чаравікі.

— Хто гэты чалавек?

— Адзін хлопец. Працуе ў нас вагаўшчыком.

— Як яго завуць?

— Міша. Кажа, што палонны...

— Сам у гэтым прызнаўся?!

— Так. Я, кажа, табе давяраю. Упэўнен, што не здрадзіш... І яшчэ сказаў, што хоча знайсці сапраўдных людзей.

— Ну, а ты? Што ты яму сказала?

— Я спытала, што ён будзе рабіць, калі знойдзе іх.

— Больш нічога не сказала?

— Не, больш нічога.

— А ён?

— У тым вось і справа, што ён нічога не адказаў...

---

* „Молва" — газета, якая выдавалася ў акупіраванай Адэсе.

*(Працяг будзе)*

# ТРЫБУНА чытачоў

## Аб працы карэспандэнта

Хачу і я сказаць пару слоў пра з'езд карэспандэнтаў. Акрамя многіх добрых бакоў, меў ён і адмоўныя. І так, мне здаецца, нядобра, што з'езд адбыўся ў чацвер, калі ўсе людзі працуюць. Толькі вучням было гэта добра, бо яны мелі зімовыя канікулы. Таму можа на з'езд не прыехаў першы карэспандэнт года Аляксандр Закройшчык ці Мікалай Панфілюк.

На з'ездзе многа гаварылася пра тое, як пісаць артыкулы, каб яны былі як найлепшыя. І тут, мне здаецца, дыскусія пайшла толькі адной дарогай, бо ўсе гаварылі толькі пра крытычныя матэрыялы, а пра іншыя ніхто нават словам не закінуў. Мне здаецца, што і гэтыя іншыя матэрыялы вельмі важныя і многія карэспандэнты пішуць больш такіх артыкулаў, чым крытычных.

Мне вельмі спадабалася на з'ездзе выступленне Уладзіміра Сідарука. Яго прапанова, каб ацэньваць карэспандэнта не паводле колькасці надрукаваных матэрыялаў, а паводле іншых крытэрыяў, здаецца мне вельмі трапнай. Добра было б ацэньваць карэспандэнта паводле трох крытэрыяў: 1) колькасць матэрыялаў, 2) тэма, 3) велічыня заметкі ці артыкула. Гэта толькі мае прапановы. Іншыя карэспандэнты могуць інакш думаць.

Цяпер, калі я ўжо напісаў тое, што я думаю пра з'езд, хацеў бы напісаць пра працу карэспандэнта. Карэспандэнт — гэта чалавек, якому неабыякавы справы свайго асяроддзя, гэта актыўны грамадскі дзеяч, які вельмі многа бачыць вакол сябе і ўмее ўбачыць усё тое, што адмоўнае ў нашым жыцці. Карэспандэнт адказвае за тое, што піша. Таму павінен ён заўсёды быць прыкладам. Праз карэспандэнтаў рэдакцыя ўтрымоўвае пастаянны кантакт з асяроддзем, якое газету чытае. Гэта дазваляе яшчэ глыбей даходзіць да чытача. Я заахвочваў бы яшчэ многіх стаць карэспандэнтамі „Нівы".

**(В)**

## Каб смачней

Нядаўна ў Дубічах Царкоўных адбыўся кулінарны курс, на якім 22 жанчыны вучыліся, як па-новаму пячы пірагі і вырабляць смачную ежу з птушынага мяса. Курс вяла інструктар рамесна-кандытарскай вытворчасці ў Гайнаўцы — Раіса Полех. На заканчэнне курсу яго ўдзельніцы падрыхтавалі смачны абед.

**М. Панфілюк**

## ПАРНАСІК

Чытальніцкая літсуполка на негарантаваных паях

## АДАМ і ЕВА

**(Біблійная гісторыя ў перакладзе на нашу гаворку)**

*Кажуць, без Бога ні да парога,*
*Хоч і блізко той парог.*
*Усяго добрага і многа*
*сатварыў всявышні Бог.*
*Зямлю, неба, мора, рэкі,*
*і ўсё сонцам асвяціў,*
*сатварыў два чалавекі*
*і ў раю іх пасяліў.*
*І фруктовы розны дрэвы*
*для людзей тых двух саздаў,*
*жанчыну назваў Бог Ева,*
*а мужчыну зваў Адам.*
*У рай тады і чорт варваўся,*
*то, відаць, стары быў бес,*
*у змяю ён перабраўся*
*і на яблыню залез.*
*А там яблык было многа,*
*Ну, вядома, у раю,*
*і тады чорт супроць Бога*
*вёў палітыку сваю.*
*А чорт хітры быў таксама —*
*ён для Евы падказаў,*
*яблыка дай для Адама,*
*што Бог ні есць яго сказаў.*
*Чорт адважны быў і смелы,*
*умеў добра ён хлусіць,*
*сказаў, каб яблыка паспела*
*дала Адамаві ўкусіць.*
*Адам на Еву падзівіўся —*
*на каханую сваю,*
*яблыкам тым сабланзіўся —*
*і з тых пор... не быў ў раю.*

**Ф. Хлябіч,**
**Рыбакі**

## САМІ САБЕ

У Гайнаўцы прайшлі выбары ў пасялковыя камітэты, якіх у горадзе 6 і адзін абвадовы. А вось гісторыя аднаго такога камітэта — нумар 4. Складаецца з 28 членаў, большасць — сапраўдныя грамадскія дзеячы, якія заданні камітэта прымаюць і выконваюць, як свае ўласныя.

Наш камітэт не выканаў бы такіх заданняў, каб не адданыя яго члены такія, як Вінцук Дзедзюль, Міхась Кучко, Міраслава Раманоўская, Валодзя Пячынскі, Севасцьян Маркаў, Генік Пятровіч, Таіса Антанюк, Марыя Зданоўская, Міхась Цырук.

Трэба сказаць, што наш пасёлак быў надта занядбаны: неасветленыя вуліцы, не было бруку, не было ніводнай крамы. Але гэта ўжо мінуўшчына. Дзякуючы актыву пасялковага камітэта і актыўнасці жыхароў, пасёлак так змяніўся, што цяпер не пазнаеш яго. На 36 вуліц у пасёлку засталося толькі 6 неасветленых. У ходзе праца над асвятленнем двух наступных вуліц. Асфальт ляжыць ужо на частцы вуліц Ліповай, Пралетарскай і Грунвальдскай. Грамадскім чынам быў праведзены рамонт вуліц Студзеннай, Спадовай, Саламянай, Спіральнай, Саколяй, Падлясся, Жаб'яй. Па рашэнні пасялковага камітэта Ваяводская спажывецкая спулдзельня — аддзел у Гайнаўцы пабудавала спажывецкі павільён. Другі павільён пабудавала Ваяводская спулдзельня інвалідаў — галантэрэйны. Тэлекамунікацыйнае ўпраўленне паставіла тэлефонную будку. Быў зроблены адплыў вады з вуліцы Ліповай. Добрае было супрацоўніцтва з школай № 2. Вучні школы абсадзілі дрэўцамі вуліцу Ліповую. Ачысцілі тратуары, апякуюцца старэйшымі.

Нагляд і апеку над пасялковым камітэтам вядзе аддзел паслуговай спулдзельні працы. Дырэктар аддзела Мікалай Сапежка памагае камітэту ў транспарце, матэрыялах, удзельнічае ў пасяджэннях камітэта. У пасёлку развіваецца спорт. За апошнюю кадэнцыю жыхары пасёлка выканалі працу грамадскім чынам на суму 700 тыс. зл.

Грамадская дзейнасць пасялковых камітэтаў горада развіваецца так дынамічна, бо падтрымліваюць яе ўлады горада. Начальнік нашага горада інж. Станіслаў Кастэра асабіста цікавіцца ініцыятывамі і працай пасялковых камітэтаў. Улады бачаць заслугі людзей. Напрыклад, мяне спаткаў вялікі гонар. Пасля 4-гадовай грамадскай працы ў самаўпраўленні горада, мяне выбралі ў гарадскую раду нарадовую. У выніку грамадскай працы для пасёлка і горада адчуваю сябе патрэбным людзям, а калі пагляджу на пастаянныя змены на пасёлку і ў горадзе, радуюся што і мая малая частка тут ёсць.

На заканчэнне хачу сказаць, што лічу дзейнасць нашага камітэта далёкай ад дасканаласці, але каб толькі ўсе пасялковыя камітэты так працавалі, тады горад развіваўся б і выглядаў яшчэ лепш.

Старшыня пасялковага камітэта № 4
**Э. Вайсковіч**

## ДА ЧАГО ДАДАТКІ?

Хацеў я купіць дзве ролькі папы, каб накрыць паветку, бо цячэ. Зайшоў у кантору ГС у Бабіках, што ў Шудзялаўскай гміне, і працаўніца пачала выпісваць квітанцыю, ды казаць, што яна павінна дапісаць дадатак — заправу да збожжа. Я гавару, што мне заправа непатрэбна, бо ў мяне ёсць цэлая пачка, а сеяць збожжа буду толькі 200 кг, так што мне хопіць тае заправы, якая ёсць. Працаўніца адказала: ёсць такое распараджэнне, што да кожнай рэчы, якую купляюць, трэба дапісваць заправу. Я далей давай тлумачыць: папы запраўляць не буду, а не хачу, каб тая заправа валялася ў мяне па кутках, або закопваць яе ў зямлю. Яе ж зрабілі, каб дадаваць да збожжа. Калі да ўсяго будзеце дадаваць заправу, казаў я, то не будзе чаго прадаць таму, хто захоча купіць яе. Не памагло. Папы я не купіў.

Дарагая „Ніва", прашу, адкажыце, ці такое распараджэнне павінна быць? Не ведаю, хто яго выдаў, бо працаўніца не сказала. У мяне зямлі мала, і калі я да ўсяго, што купляю, буду браць заправу, куды ж яе дзену потым. Высніце, калі ласка, ці трэба купляць заправу, хоць яна непатрэбна.

**Э. Шчасновіч**

## У гадавіну ОРМО

Ужо 32 гады дзейнічае ў нашай краіне ОРМО. У гміннай арганізацыі ОРМО ў Нараўцы адбылася ўрачыстая акадэмія. Васіль Панькоўскі атрымаў бронзавы знак „У службе народу". Заслужанымі дзеячамі ОРМО з'яўляюцца: Кастусь Харкевіч і Казімір Касёрэк. Улады гміны прызналі дыпломы Міхасю Панфілюку, Аляксандру Салагубе, Уладзіміру Русакову, Юзафу Засіму і Кастусю Харкевічу.

Нараўкаўская арганізацыя ОРМО мае вялікую і заслужаную пашану сярод насельніцтва.

**А. З.**

*

Таксама з нагоды гадавіны ў Чаромсе ў мясцовым доме культуры „Калеяж" адбылася сустрэча членаў ОРМО з усёй гміны з грамадска-палітычным актывам і кіраўніцтвам чыгуначных прадпрыемстваў гарадка.

З дакладам аб дзейнасці гміннага ОРМО выступіў І сакратар вузлавога камітэта ПАРП Лявон Ляскоўскі. Ён паказаў дасягненні арганізацыі і яе працу на кожны дзень. Найлепшыя армоўцы атрымалі пачэсныя граматы, а найстарэйшаму — пенсіянеру Сцяпану Рошчанку са Ставішчаў гарцэры ўручылі прыгожыя чырвоныя кветкі.

У мастацкай частцы выступіў духавы аркестр чыгуначнікаў пад кіраўніцтвам Казіміра Блашкевіча.

**(ус)**

## Рэстаран „Падлясянка"

У Бельску толькі два рэстараны: „Падлясянка" і „Бяльчанка". Мо гэта крыху і малавата, але трэба цешыцца тым, што ёсць.

Усіх прыезджых і праезджых праз горад я хацеў бы запрасіць найперш у рэстаран „Падлясянка". Ён пры вуліцы Міцкевіча. За выдатную працу рэстаран заваяваў „Сярэбраную патэльню", якая, як сімвал, вісіць над уваходам у кухню. Зала рэстарана прыгожая, чыстая, прыбраная, абслуга вельмі мілая і ветлівая. Тут праводзяць практычныя заняткі вучні гастранамічнай школы і вучацца добрай рабоце.

Гаворачы пра ўсе гэтыя добрыя факты, нельга забыць і пра некаторыя недахопы. Напрыклад, спісак страў, напісаны на дрэннай паперы, літары расплываюцца, і цяжка прачытаць назвы. Таксама бывае часам, што ўсе абеды з курацiны, а не кожны любіць яе, хоць і гэтыя абеды ў „Падлясянцы" надта смачныя.

У рэстаране можна паглядзець тэлевізійную перадачу па каляроваму тэлевізару, што яшчэ больш павінна заахвоціць зайсці ў наш рэстаран.

**(В)**

## Адны ашчаджаюць, другія забываюць

10 сакавіка 1978 года давялося мне ехаць дарогай з Нарвы ў Беласток і ў вёсцы Жыўкова быў я ў 6.05 гадзін раніцы. Было ўжо даволі відна на двары і пазнаць чалавека можна было на адлегласць 100 м. Але ў вёсцы на стаўбах гарэлі лямпачкі. Едзем далей. У мястэчку Заблудаў — 6.20 раніцы, а на стаўбах гараць усе лямпачкі.

— Што такое? — падумаў я. — Можа начальнік гміны загадаў, каб лямпачкі гарэлі да таго часу, пакуль ён прыдзе на работу, або нешта недапрацавана на гэтую тэму ў гміне?

Думаю, што хутчэй тое другое.

**М. Лук'янюк**

## Наша ПОШТА

**А. Л.** Кожны год усе лішнія нумары „Нівы" перадаем у ГП БГКТ. Там можна было б скамплектаваць гадавік. Не ўсе, аднак, нумары ёсць на складзе. Некаторыя разыходзяцца беззваротна і запасаў няма чым папоўніць.

## НЯСЛАЎНАЯ ХРОНІКА

Паездзіў сабе адзін шафёр на трактары „Урсус". Здарэнне адбылося ў Гайнаўцы. Найперш заехаў дарогу і стукнуўся з „Волгай", знішчаючы яе на 25 тысяч злотых. Потым ад'ехаў з месца выпадку і на вуліцы Варынскага ўдарыў у будынак, пашкодзіў на гэты раз свой трактар ды і сам параніўся. Затрымалі яго, быў п'яны.

## Пасля першага паўгоддзя

У Бельскім беларускім ліцэі працуе выхаваўчы калектыў, які складаецца з прадстаўнікоў усіх класаў, дырэкцыі і настаўнікаў. Кіруе ўсім мгр Анатоль Падолец.

Адбылося першае пасля першага паўгоддзя пасяджэнне калектыву. Стаялі справы стыпендый і агульнага становішча ў класах. У нашай школе абавязваюць такія правілы, што, калі хтосьці мае двойку, перастае атрымліваць стыпендыю. Таму 13 вучняў страцілі стыпендыю. Калектыў прызнаў тром асобам стыпендыю, а адной павысіў.

У далейшым прадстаўнікі класаў гаварылі аб сваіх поспехах і недахопах. Становішча ва ўсіх класах палепшылася, больш лепшых ацэнак, менш прапушчаных урокаў. Вельмі многа месца ў дыскусіі было прысвечана матуры, якая ўжо хутка чакае чацвертыя класы.

Гаварылі пра прадметныя алімпіяды. Многія дзяліліся сваім вопытам. Хаця большасць алімпіяд ужо закончылася, гэта аднак не канец працы. Ёсць ужо правілы алімпіяд на наступны год, і трэба рыхтавацца да наступнага змагання. Цікава, што ўсе алімпійцы сцвярджаюць аднадумна, што толькі сістэматычная і ўжо цяпер распачатая праца можа прывесці да добрых вынікаў.

Дырэктар нашага ліцэя Аляксей Карпюк падкрэсліў, што алімпіяды, апрача індэкса ў вышэйшыя навучальныя ўстановы, даюць вельмі многа ведаў. На алімпіядзе можна пазнаёміцца з цудоўнымі людзьмі, з атмасферай працы, якая вельмі падобная да атмасферы ўступных экзаменаў у вышэйшыя навучальныя ўстановы.

Была закранута таксама справа маладзёжнага жыцця ў інтэрнаце. Між іншым, гаварылася пра тое, што вучні IV класаў, якіх чакае атэстат сталасці, вымушаны, як і ўсе іншыя, выконваць розныя абавязкі. Дыскусія была доўгая і плённая. Дала многа вывадаў, памагла зразумець, як лепш працаваць і вучням, і настаўнікам.

**В. Анапюк**

## Прыемная сустрэча

У Дэкадзе культуры вёскі ў Дубіцкай гміне адбылася сустрэча ГОКу і прадстаўнікоў Прадпрыемства галантэрэйных вырабаў з Беластока, якія наведалі Дубічы. Госці разам з мясцовай моладдзю ўселіся ў падрыхтаваныя падводы і паехалі ў лес. Зачараваны былі лясной прыродай і адпачынкам на яе ўзлонні. Грыша Шварц — кіраўнік ГОКу прыгожа іграў на акардэоне.

Калі вярнуліся, у ГОКу адбылася забава пад гукі гармоніка. Госці з Беластока запрасілі дубіцкую моладзь да сябе на свята тэкстыльшчыкаў.

**М. Панфілюк**

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

**Да заметкі „ЯК ПРАДАЦЬ ЦЯЛЯТКА?", „Ніва" № 45/1132 ад 6 лістапада 1977 года.**

**Адказвае: GMINNA SPÓŁDZIELNIA „SAMOPOMOC CHŁOPSKA" W KLESZCZELACH.**

Nawiązując do notatki prasowej z 45/1132 numeru tygodnika „Niwa" z dnia 6 XI 1977 r. dotyczącej skupu cieląt uprzejmie informujemy, że stawiany zarzut nie tylko dotyczy Gminnej Spółdzielni „Samopomoc Chłopska".

Zakup cieląt organizowany jest w porozumieniu z Urzędami Gmin przez Przedsiębiorstwo Obrotu Zwierzętami Hodowlanymi i Przedsiębiorstwem Przemysłu Mięsnego w Białymstoku. Terminy zakupu podawane są w „Gazecie Współczesnej", jak również wywieszane są ogłoszenia w punktach skupu i w Biurze GS. Przyjęta jest zasada, że na poszczególnych punktach skupu zakupy odbywają się zawsze w tych samych dniach danego miesiąca.

W związku z ukazaniem się notatki w tygodniku „Niwa" terminarze są przesyłane do wiejskich przedstawicieli do spraw kontraktacji, którzy informują rolników.

Przepraszamy za zwłokę z odpowiedzią.

**Pełnomocnik Zarządu GS**
**d/s Skupu, Kontraktacji i Produkcji**
**B. Kaczko**

„Niwa" — Tygodnik RSW „Prasa—Książka—Ruch". Skr. poczt. 149. 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. Wydawca Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe RSW w Białymstoku. PRENUMERATA: Oddziały „Ruch", urzędy pocztowe i listonosze. Indeks 36911/36671.

Імпартгумар

# Беражыце нервы!

Калі вы хочаце надоўга захаваць маладосць, быць квітнеючым — беражыце нервы. Ну гляньце на мяне: усе сорак маю, а малады. А ўсё таму, што свае нервы берагу. Вось, скажам, так. Пяць гадоў пуцёўкі ў санаторый чакаў. Другія аж з сябе выходзілі, да дактароў і начальства хадзілі, а я сабе маўчу — нервы берагу.

Дачакаўся. Уручылі мне пуцёўку. Едзь, дарагі таварыш, лячыся, набірайся сіл, не думай аб працы, лячы нервы.

Жонка нарадавацца не можа. Яшчэ б — столькі чакалі. Сабрала яна мяне ў дарогу...

На крылах ляцеў я ў той санаторый. Упершыню так хваляваўся: сэрца калаціцца, бы заячы хвост, рукі дрыжаць, бы курэй у суседзяў краў, ногі ў каленках падгінаюцца.

На плошчы да таксіста бягу:

— Даражэнькі, падкінь да санаторыя...

— Пяць рублёў...

„А гарэлі б тыя грошы, — думаю я, — хутчэй бы ў здраўніцу".

Не праехалі мы і пяці хвілін, як запішчалі тармазы, і я ледзь не ўрэзаўся лбом у ветравое шкло: на лічыльніку было крышачку больш за рубель...

Хацеў бы расхвалявацца, але ўзяў сябе ў рукі. Аддаў пяцёрку і пайшоў у будынак санаторыя.

Назаўтра завітаў да ўрача.

Сеў убаку, чакаю.

Сяджу сабе — нервы берагу. А чаго мне хвалявацца, куды спяшацца?

Прайшла гадзіна, другая. Зусім супакоіўся, чакаў пяць гадоў, а тут якісьці дзень, другі...

У кожнага чалавека свае балячкі, а мне што — галоўнае не хвалявацца.

На трэці дзень прыпісалі мне ванны і душы, не якія-небудзь, а цыркулярныя: дзесяць хвілін ванна — дзесяць гадзін чакання.

„Сядзі, думаю, чаго хвалюешся, мо гэта мятода такая, не вада памагае, а час...

Ніяк не разумею сваіх суседзяў: мітусяцца, скардзяцца, крычаць.

Не, гэта не лячэнне! Нельга так, брацікі: супакойцеся, сядзіце, чакайце.

Падышла мая чарга. Ляжу, бы ў лесе хваёвым. Праўда халаднавата, але ж, думаю сабе, на вуліцы восень, а я не на паўднёвым беразе Крыма, а на беразе нашай Беразіны. Вытрываю.

Прыняўшы ванну, бягу на снеданне. А добра падсілкаваўшыся, іду ў свой пакой, лажуся, чытаю кніжку. Берагу нервы...

**Алесь Кавальчук**






**— Пакуль я не ведаў, што ў мяне ціск 240, я адчуваў сябе цудоўна.**

# НІЎКА



*— Гэтага толькі не хапала.*

## ТРЫМАЙЦЕ ВУХА!

*Каму прысвячаецца-той здагадаецца*

### ХАРЫСТ

*Яшчэ прапець? Не-не, і не ўгаворыш.*
*Вы злуяце. Яму ж не ў галаве.*
*Вы што — не знаеце? Хіба ж ён падарве*
*Свой голас у агульным хоры?*

*Ён лепш законніка ўсе ведае законы.*
*Калі ж нявыкрутка і нельга ўжо не пець —*
*І ён заядзе... толькі на паўтона,*
*Абы смылець.*

*Абы, абы... Ну чым, скажы, не школа?*
*Затое ўжо ля бухгалтэрскіх кас*
*Грыміць, як гром, яго настырны голас,*
*Тут, між басоў, ён самы важны бас.*

*Тут ён гатоў на цэлую актаву*
*Рвануць вышэй, перагарнуўшы ліст,*
*Тут першы ён сваё прыпомніць права.*
*Ну ж і харыст... Ну ж і харыст!..*

**Алесь Бачыла**

### КАЛІ НЕ ЦЯЖКА

Мама спытала маленькага Міколку:

— Каго табе больш хочацца — сястрычку ці брацікa?

— Калі гэта не вельмі ада'б'ецца на тваёй фігуры, то я аддаў бы перавагу веласіпеду...

### АБОІМ ПАЛЕГШАЛА

Кастусь гаворыць жонцы:

— Ведаеш, жонка, кінуў піць, і адразу палегшала.

— І мне таксама палегшала, — адказала жонка.

— Дык ты ж не піла.

— Зато цябе, п'янага валацугу, кожны раз дадому цягнула.

### КАЛІ ПРАЧНЕЦЦА

Доктар Знахарук гаворыць хвораму:

— Прыміце сёння гэтыя дзве таблеткі, а заўтра, калі прачнецеся, яшчэ дзве.

### НЕ ТАКАЯ ДУРНАЯ

— Лекар прыпісаў мне акуляры і сказаў, што я змагу чытаць толькі ў іх, — гаворыць сяброўцы маладая задрыпанка.

— Пакажы ж акуляры.

— Ці ўжо не думаеш ты, што я сапраўды буду надзяваць акуляры? Лепш кіну чытаць!

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

130-гадовы горац на днях кінуў курыць.

— Я гэта зрабіў, — заявіў ён, як толькі даведаўся, што нікатын шкодны для здароўя.

*

— Якім чынам вы так апяклі вушы?

— Бачыце, калі я гладзіў, пазваніў тэлефон, і я замест трубкі прыціснуў да вуха прас.

— А другое вуха?

— Павінен жа я быў пазваніць, каб выклікаць лекара!

*

Праходжы быў збіты грузавіком. Агледзеўшы яго, доктар заявіў, што ён мёртвы. Пачуўшы слова „мёртвы", пацярпеўшы прыпадняўся і закрычаў:

— Які я мёртвы! Я жывы!

— Не спрачайся, — супакойвае яго жонка, — ляжы, не ўставай, доктар лепш ведае!



*— Не падыходзьце! У мяне грып!*

## ГУМАР З

### ПАЛЯЧЫЎ

Да лекара зайшла жанчына, лекар кудысьці спяшаўся.

—Ну, хутчэй гаварыце, у чым справа, бо я спяшаюся.

— Жывот...

— А, жывот? Добра! Піце!
— і дае ёй касторкі.

— Ды, пане доктар...

— Піце!

Жанчына выпіла.

— Ідзіце.

— А ад жывата?

— Як ад жывата, дык я ж даў ужо?

— Ды не мне, пане доктар, жывот у дачкі баліць.



*Пацыент з буйных.*

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Ірэны Сегень з Каменя змяшчаем песню*

# WALC PRZED LUSTREM

**Słowa: Tadeusz Grochowski**
**Muzyka: Andrzej Stolarczyk**

Tych co odeszły, nie licz dni,
dni podzielonych na nas dwoje.
Chodź, razem ze mną w lustro spójrz, w nim dwa odbicia, jedno twoje, drugie moje.
Ten połączony obraz nasz
niech w szkło wtopiony pozostanie,
nieodmieniony niech tak trwa, a ja,
a ja oprawię go w czekaniu, bo ja już bez ciebie...

Bo ja już bez ciebie
nocy się nie boję,
kiedy przyjdą chłody,
deszcze, złe nastroje.
Może na tej wierzbie,
co ma z wiatru skrzydła,
będzie nasza miłość kwitła,
a serce wycięte, co na korze lśniło,
będzie jeszcze w piersi biło.
Mam policzone wszystkie dni,
te już nie twoje i nie moje,
układam pasjans z nich jak z kart, a w nim,
a w nim wychodzą tylko moje dawne niepokoje.
Może na szkle pozostał ślad,
oddechów mglelne malowanie,
niepokój na nasz obraz siadł, jak zmierzch,
jak zmierzch co jest oczekiwaniem, bo ja znów bez ciebie...

Bo ja znów bez ciebie
nocy tak się boję,
kiedy przyjdą chłody,
deszcze, złe nastroje.
Może na tej wierzbie,
co ma z wiatru skrzydła,
będzie nasza miłość kwitła,
a serce wycięte, co na korze lśniło,
żeby w piersi ci zabiło.



*— А цяпер сі-бемоль мадэрата!*

## Курёзы

### СЦЕРАЖЫЦЕСЯ ПАЛІЦЭЙСКІХ!

Амерыканскі псіхіятр Эдвард Шэў 13 гадоў вёў пастаянны нагляд за станам здароўя паліцэйскіх горада Сан-Францыска. Вынікі гэтага нагляду аказаліся ашаламляльнымі: толькі здаровае 5 працэнтаў з усіх паліцэйскіх поўнасцю адпавядае патрабаванням прафесіі. Шэсцьдзесят працэнтаў „маглі б быць вылечаны" і потым выконваць свае абавязкі. А вось псіхіка 35 працэнтаў паліцэйскіх настолькі расхістана, што „не паддаецца лячэнню". Больш таго, па заключэнню Эдварда Шэў, гэтыя людзі „небяспечныя" для акружаючых.

### НАВОДЗЯЦЬ „ПАРАДАК"

Спецыяльная камісія, у саставе якой былі юрысты, вышэйшыя паліцэйскія чыны і медыкі, падрыхтавала для міністра юстыцыі Ізраіля даклад. У ім канстатавалася, што прастытуцыя ў краіне набывае ўсё большыя маштабы. Толькі ў Тэль-Авіве кожны дзень „на панель" выходзяць каля 800 жанчын. Камісія прапануе „упарадкаваць" арганізацыю гэтага бізнесу: выдзеліць для прастытутак спецыяльныя атэлі і кватэры, наладзіць кантроль і дазволіць ім друкаваць у газетах „прыватную" рэкламу.

### АЛЬБОМНЫ ЗАПІС

— Напішыце, пане Сафір, што-небудзь арыгінальнае ў мой сямейны альбом, — папрасіў аднойчы барон Ротшыльд Сафіра. Той узяў пяро і напісаў:

„Пазычце мне сто луідораў і забудзьце аб гэтым!"

## Смяюцца з намі

**У кожнага лекара свой почырк, але ўсе яны нечытэльныя.**